Заснавана ў сакавіку 1935 года

# Добрушскі Край

Раённая масавая газета

Падпісны кошт нумара 25 рублёў.

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня...

№89 (8605) 17 жніўня 2000 г. ЧАЦВЕР






**Неўзабаве ў калгасе "Абарона" жніво-2000 уступіць у заключную стадыю. Зерневыя і зернебабовыя ў гаспадарцы скошаны на 1698 гектарах з 2150.**

**У калгасе на жніве разгорнута працоўнае спаборніцтва. Яго вынікі падводзяцца кожны дзень. Інфармацыя аб ходзе працоўнага саперніцтва вывешваецца на экране спаборніцтва.**

**З пачатку жніва на ім пастаянна знаходзіцца прозвішча Мікалая Мікалаевіча Кажамякіна, вадзіцеля аўтамашыны ЗІЛ-130. Ён бясспрэчны лідэр па адвозцы зерня ад камбайнаў. За дзень Мікалай Мікалаевіч паспявае перавезці да паўсотні тон хлеба.**

**Аператыўнасць, дакладнасць – так характарызуюць у калгасе работу М.М. Кажамякіна. За рулём аўтамашыны Мікалай Мікалаевіч вось ужо пятнаццаць гадоў. Добра ведае сваю тэхніку і старанна яе даглядае. Таму аўтамашына ніколі не падводзіць свайго гаспадара. М.М. Кажамякін заўсёды гатовы выехаць у любы рэйс, выканаць любое даручэнне.**

**НА ЗДЫМКАХ: М.М. Кажамякін; на экране спаборніцтва — самыя апошнія звесткі аб ходзе жніва.**

**Фота В. Талкачова.**

## Спяшайся, хлебароб!

Па стану на 15 жніўня зерневыя і зернебабовыя ў калгасах і дзяржгасах раёна абмалочаны на 17515 гектарах. Хлеб засталося ўбраць на 8819 гектарах. Валавы намалот склаў 36737 тон зерня. Калі параўнаць мінулагодняе жніво і сёлетняе, то па тэрмінах уборкі мы некалькі спазняемся. Аднак гэта не значыць, што з пачаткам жніва земляробы прамарудзілі. Тут сказаліся капрызы надвор'я. У той час, калі ва ўсіх гаспадарках сабіраліся вывесці камбайны ў поле, пайшлі дажджы. Цяперашнія тэмпы жніва ўпаўне задавальняючыя, яны даюць падставы меркаваць, што хлеб будзе ўбраны своечасова.

Адначасова са жнівом гаспадаркамі раёна вядзецца продаж хлеба дзяржаве. Найбольш актыўна рэалізоўваюць зерне ў тых калгасах і дзяржгасах, дзе паклапаціліся аб тым, каб своечасова вывесці камбайны ў поле, падрыхтаваць абсталяванне зернетакоў і здаць пробы збожжа на праверку ўтрымання ў ім радыенуклідаў, цяжкіх металаў і таксінаў. Апошняе — таксама вельмі важны фактар. Вынікі аналізаў паступаюць толькі праз 10-12 дзён.

У жніўні клопатаў у земляробаў хапае. Падыходзіць час уборкі кукурузы на зерне ў племзаводзе "Насовічы", калгасе імя Калініна, агракамбінаце "Новы шлях"... Усяго гэту культуру на зерне патрэбна ўбраць амаль на 400 гектарах. Тут будуць задзейнічаны камбайны КЗР-10.

Ужо зараз неабходна прыступаць і да ўборкі кукурузы на зялёную масу.

Асноўнай тэхнічнай культурай у раёне з'яўляецца лён. Пры ўмелай рабоце з ім можна атрымліваць нядрэнны прыбытак. Аднак у апошні час кіраўніцтва льносеючых гаспадарак імкнецца перакласці цяжар работ на палетках "паўночнага шоўку" на плечы калектыву адкрытага акцыянернага таварыства "Церахоўскі льнозавод". Правільна. Прадпрыемства ўзяло на сябе выкананне шэрагу агратэхнічных аперацый. Аднак зараз надышла пара церабленне льну. І пакласці даўгунец пад жнівеньскія росы ў найбольш аптымальныя тэрміны на ўсіх плошчах льнозавод не можа. Таму ў саміх гаспадарках патрэбна заняцца церабленнем ільну. У адваротным выпадку знізіцца якасць трасты, не ўдасца спаўна сабраць льносемя. У канчатковым выніку ў пройгрышы будуць самі гаспадаркі.

Адначасова з уборкай зерневых і зернебабовых 2000 года ва ўсіх гаспадарках закладваюць падмурак ураджаю будучага года. У якасці прыкладу аператыўнай работы на палетках можна ўзяць калгас "Шлях да камунізму". Для сяўбы азімых тут узарана 470 гектараў глебы. Своечасова пасеяны азімы рапс. На 35 гектарах размешчаны пажніўныя і паўкосныя культуры. Аператыўна працуюць на азімых палетках у племзаводзе "Насовічы", калгасах "Беларусь", імя Калініна, "Абарона", некаторых іншых гаспадарках.

Цяжар работ са збожжавай нівы пераходзіць на азімы палетак.

**А. ЗІНЕВІЧ,**
**намеснік начальніка райсельгасхарчу.**

ГВАРДЗЕЙЦЫ ЖНІВА

## Хлебаробская дынастыя Аўсяннікавых

Збожжавы палетак калгаса "Перамога" сёлета займае 805 гектараў. Штодня на збожжавую ніву выязджаюць сем камбайнаў. За штурваламі трох з іх — Аўсяннікавы. З 1250 тон намалочанага зерня на іх рахунку — палавіна.

Старэйшы з Аўсяннікавых Васіль Яфімавіч вось ужо пяць гадоў таму назад атрымаў права на заслужаны адпачынак. Да гэтага штогод у час жніва працаваў на камбайне. Калі выйшаў на пенсію, удзела ў жніве не прымаў. Аднак на сёлетнім жніве стала не хапаць камбайнераў. Таму Васілю Яфімавічу давялося выручаць родную гаспадарку.

Ужо не першы год працуюць камбайнерамі сыны Васіля Яфімавіча Яўген і Віктар. Ад бацькі яны перанялі такія рысы як працалюб'е, любоў да зямлі. Яўген у калгасе з'яўляецца звеннявым па вырошчванню зерневых культур. Вясной і восенню займаецца сяўбой. Потым даглядае пасевы. А ў час жніва з трактара "Беларус" перасаджваецца на камбайн. Другі сын В.Я.Аўсяннікава Віктар спецыялізуецца на вырошчванні караняплодаў і кукурузы. Выконвае ўсе агратэхнічныя аперацыі, пачынаючы з пасадкі і заканчваючы ўборкай вырашчанага. У гэтыя ж жнівеньскія дні Віктар дапамагае брату на зерневым палетку.

— Вельмі добра, што ў нас ёсць такія працалюбівыя людзі, як Аўсяннікавы, — дзеліцца сваімі разважаннямі старшыня праўлення калгаса Надзея Іванаўна Трус. — На іх заўсёды можна спадзявацца, яны ніколі не падвядуць. У бацькі, сыноў адчуваецца хлебаробская загартоўка.

Яўген і Віктар назаўсёды звязалі сваё жыццё з зямлёй, работай на ёй. Засталіся ў роднай вёсцы. Працуюць механізатарамі. У кожнага свой дом, сям'я. У Віктара і Яўгена па двое дзяцей. І сваю любоў да зямлі яны імкнуцца перадаць нашчадкам, каб працягвала і далей існаваць дынастыя земляробаў Аўсяннікавых.

**В.ЧАВУСКІ.**

УРАДЖАЙ-2000

## Перадавікі жніва

*Упраўленне сельскай гаспадаркі іхарчавання райвыканкама, райкам прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу падвялі вынікі работы камбайнавых экіпажаў і вадзіцеляў на жніве 2000.*

*Па стану на 14 жніўня наперадзе ідуць*

**НА ЎБОРЦЫ ЗЕРНЕВЫХ**

**А.А. Галкін** -- старшы камбайнер, **А.Ц. Галкін** -- камбайнер з калгаса «Беларусь», якія на камбайне «Дон-1500» убралі 180 гектараў зерневых і намалацілі 675 тон зерня.

**А.М. Глазко** -- старшы камбайнер, **В.П. Глазко** -- камбайнер з калгаса «Шлях да камунізму», якія на камбайне КЗР-10 убралі 198 гектараў зерневых і намалацілі 555 тон зерня.

**С.А. Бобрыкаў** -- старшы камбайнер, **А.У. Бобрыкаў** -- камбайнер з калгаса «Беларусь», якія на камбайне «Дон-1500» убралі 140 гектараў зерневых і намалацілі 514 тон зерня.

**С.М. Прахарэнка** -- старшы камбайнер, **Д.С. Прахарэнка** -- камбайнер калгаса імя Фрунзе, якія на камбайне «Бізон» убралі 243 гектары зерневых і намалацілі 478 тон зерня.

**В.У. Бойдак** -- старшы камбайнер, **У.А. Аксёнчыкаў** -- камбайнер калгаса імя Калініна, якія на камбайне «Дон-1500» убралі 191 гектар зерневых і намалацілі 459 тон зерня.

**НА АДВОЗЦЫ ЗЕРНЯ**

**І.М. Малаеў** -- вадзіцель калгаса «Чырвоны Кастрычнік», які на аўтамабілі ЗІЛ-130 перавёз 628 тон зерня.

**А.М. Куцапалаў** -- вадзіцель калгаса «Чырвоны Кастрычнік», які на аўтамабілі ГАЗ-53 перавёз 609 тон зерня.

**М.М. Марфушкін** -- вадзіцель калгаса «Чырвоны Кастрычнік», які на аўтамабілі ГАЗ-53 перавёз 606 тон зерня.

## Інфармацыя

***ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама аб ходзе жніва на 15 жніўня 2000 года.***

***Першая калонка -- скошана зерневых і зернебабовых (у прац.); другая -- ураджайнасць (цэнт); трэцяя -- прададзена збожжа дзяржаве (у прац).***

| | | | |
|---|---|---|---|
| Імя Кірава | 86 | 16,3 | 83 |
| «Шлях да камунізму» | 85 | 28,0 | 80 |
| «Беларусь» | 80 | 34,5 | 29 |
| «Абарона» | 79 | 19,9 | 57 |
| імя Калініна | 77 | 24,2 | 36 |
| «Рассвет» | 77 | 11,2 | 43 |
| «Ленінскі шлях» | 73 | 30,2 | 90 |
| «Чырвоны Кастрычнік» | 73 | 25,0 | 69 |
| «Жгунскі» | 72 | 18,0 | 90 |
| «Перамога» | 71 | 21,9 | 58 |
| «Насовічы» | 69 | 23,4 | 24 |
| «Дружба» | 67 | 20,0 | 74 |
| «Івакі» | 67 | 18,7 | 71 |
| «Новы шлях» | 60 | 16,0 | 26 |
| імя Гагарына | 56 | 15,2 | 29 |
| «Заря камунізма» | 53 | 19,6 | 62 |
| імя Суворава | 53 | 15,3 | 44 |
| «Чырвоны партызан» | 52 | 18,9 | 47 |
| імя Фрунзе | 48 | 19,9 | 50 |
| «Чырвоная ніва» | 46 | 12,2 | 26 |
| імя Леніна | 28 | 17,9 | 23 |
| **ПА РАЁНУ** | **67** | **21,0** | **53** |

25-ГОДДЗЕ МАНУМЕНТА ДРУЖБЫ

# ПЕСНІ І ВЕРШЫ АБ ДРУЖБЕ

Адкрыты ў маі 1975 года на граніцы трох славянскіх рэспублік велічны мемарыял стаў пастаянным месцам традыцыйных сустрэч і народных святаў.

У чэрвені таго ж года на памежжы зноў загучала музыка, песні і вершы на трох мовах. манумент Дружбы на старажытным кургане пертварыўся ў сімвал масавага мерапрыемства — Дзён літаратуры і мастацтва Беларусі ў Украінскай ССР. А пачаліся яны ў невялікай вёсцы Гарнастаеўцы Рэпкінскага раёна, на пабярэжжы магутнага Дняпра.

На святочна ўпрыгожанай чыгуначнай станцыі беларускіх гасцей сустракалі не толькі мясцовыя жыхары, але і прадстаўнікі грамадскасці з Чарнігава і Кіева: намеснік міністра культуры УССР А.С.Чарнабрыўцава, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі абкама КПУ І.І.Музычэнка, намеснік старшыні аблвыканкама Б.І.Сенько, начальнік абласнога ўпраўлення культуры А.Д. Стасевіч, першы сакратар Рэпкінскага райкама партыі К.А.Аўчынкін.

Тут жа, на пероне, дзе спыніўся поезд Дружбы з Гомеля, прайшоў кароткі мітынг. Членам прыбыўшай дэлегацыі ўручылі хлеб-соль і кветкі. Разам з пісьменнікамі і дзеячамі мастацтваў Беларусі прыехалі загадчык аддзела культуры С.В.Марцэлеў, сакратар Гомельскага абкама партыі С.П.Бабыр, міністр культуры БССР Ю.М.Міхневіч. З падзячным словам у адказ на шчырыя прывітанні выступіў старшыня Саюза кампазітараў Беларусі, народны артыст СССР Р.Р.Шырма. А затым над вакзалам узвілася ў летнія нябёсы ўрачыстая песня на мелодыю расійскага кампазітара Ісаака Дунаеўскага «Краю мій, мая ти Ботьківщино» — яе спявалі Дзяржаўны народны хор Беларусі, хор Чарнігаўскага музычнага вучылішча, усе прысутныя.

Гэтак жа гасцінна віталі беларусаў з поезда Дружбы на чыгуначных станцыях Нежын і Чарнігаў. У абласным цэнтры шматлюдны мітынг быў праведзены на тэатральнай плошчы імя Куйбышава. Тут выступілі першы сакратар гаркама і КПУ М.І.Агеенка, ткачыха камвольна-суконнага камбіната В.Л.Сінько, ганаровы грамадзянін г.Оршы, Герой Савецкага Саюза А.С.Юрчанка, кіраўнік народнага хору «Дзясна», заслужаны артыст Украіны Л.М.Пашын, беларускі паэт Ніл Гілевіч.

Вечарам у святочным канцэрце паказалі сваё высокае майстэрства вядучыя музычныя калектывы — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла і сімфанічны аркестр Беларусі, квартэт балалаечнікаў Віцебскага музычнага вучылішча, ансамблю песні і танца Маладзечанскага Дома культуры, народныя артысты рэспублікі Віктар Чарнабаеў, Святлана Данілюк, Тамара Шымко, іншыя вядомыя выканаўцы.

З нагоды Дзён літаратуры і мастацтва Беларусі на Украіне, нефармальная сустрэча інтэлігенцыі спаборнічаючых Добрушскага і Гараднянскага раёнаў адбылася 17 чэрвеня каля манумента Дружбы. Тут выступалі мастацкія калектывы мясцовых калгасаў, прадпрыемстваў і школ.

У справаздачы абласнога ўпраўлення культуры Гомельскаму аблвыканкаму адзначалася:

«Добрушскія культасветустановы падтрымліваюць творчыя сувязі з Гараднянскім і Шчорскім раёнамі Чарнігаўскай вобласці. Так, калектыў мастацкай самадзейнасці Добрушскага РДК у дні дэкады беларускага мастацтва і літаратуры на Украіне выступіў у вёсцы Сянькоўка Гараднянскага раёна. Гомельскі аблдрамтэатр знаходзіўся на гастролях у чэрвені у г. Чарнігаве, у ліпені — у г. Смаленску. У г.Гомелі і вобласці праходзілі гастролі: у чэрвені — Чарнігаўскага дзяржаўнага музычна-драматычнага тэатра імя Т.Р.Шаўчэнкі, у ліпені — Брэсцкага аблдрамтэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі, у жніўні — Смаленскага абласнога драматычнага тэатра...»

А ў верасні ў рускім сяле Красны Рог Почапскага раёна — на радзіме знакамітага пісьменніка А.К.Талстога было наладжана свята паэзіі, на якое былі запрошаны прадстаўнікі некалькіх абласцей Расіі, Украіны і Беларусі. У старадаўні парк сустрэцца з паэтамі прыйшлі тысячы людзей. Газета «Брянский рабочий» паведамляла 9 верасня 1975 года:

«...На паркавай эстрадзе, размешчанай побач з музеем вялікага паэта, змяняючы адзін аднаго, падыходзяць да мікрафона паэты з Кіева і Бранска, Чарнігава і Гомеля, Тулы і Арла. Гучаць вершы на рускай, украінскай і беларускай мовах...»

Поруч з расшырэннем культурных сувязяў паміж суседзямі раёнамі і абласцямі, мацавалася эканамічнае супрацоўніцтва. Добрушская папяровая фабрыка «Герой працы» мела сотні партнёраў ва многіх саюзных рэспубліках, у прыватнасці, — гэта Карукаўская і Панінкаўская фабрыкі на Украіне, Суражская — у Бранскай вобласці РСФСР. Абмен вытворчым вопытам, новымі тэхналогіямі паміж спаборнічаючыму калектывамі, узаемныя паездкі рабочых дэлегацый сталі традыцыйнымі.

Напрыканцы 1975 года перадавыя даяркі прыгранічных калгасаў — Надзежда Іванаўна Фаменка («Савецкая Расія» Клімаўскага раёна РСФСР), Ганна Гаўрылаўна Кушчан («Украіна» Шчорскага раёна) і беларуска Валянціна Макараўна Зенчанка з калгаса імя Фрунзе выступілі з адкрытым пісьмом да ўсіх даярак Бранскай, Чарнігаўскай і Гомельскай абласцей з заклікам дасягнуць павышэння прадуктыўнасці малочнага статка, палепшыць працоўныя паказчыкі.

Спаборніцтва сяброўак падхапілі многія жанчыны. Старшыня жансавета Навазыбкаўскага раёна М.В.Рушалава, выступаючы на сходзе жанчын-працаўніц Гараднянскага раёна 27 ліпеня, заявіла:

«Мы падтрымліваем ідэю, каб у наша трацыцыйнае спаборніцтва паміж суседнімі раёнамі трох рэспублік-сясцёр уключыць дадаткова спаборніцтва прадстаўнікоў адной і той жа прафесіі".

У справаздачным дакладзе Гомельскага абкама КПБ XIX абласной партыйнай канферэнцыі ў канцы 1975 года адзначалася, што ў вобласці «нямала робіцца па патрыятычнаму і інтэрнацыянальнаму выхаванню. /.../ Сапраўдным святам з'вілася адкрыццё манумента Дружбы на граніцы Гомельскай, Бранскай і Чарнігаўскай абласцей».

**П. СТРЫБУК, журналіст.**



***На архіўным здымку 70-х гадоў: дэлегацыя Добрушскага раёна крочыць да Манумента.***

ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## Пры мінімальных затратах

У калгасе імя Леніна спаўна выкарыстоўваюць магчымасць павелічэння прадуктыўнасці грамадскага статка ў час пашавага ўтрымання жывёлы.

Жывёлаводы гаспадаркі аднымі з першых вывелі на адгонныя пашы маладняк буйной рагатай жывёлы. Вось ужо тры месяцы на падножным корме знаходзяцца 340 цялушак розных узростаў і 150 бычкоў. Затраты мінімальныя — дастаўка вады, мінеральныя дабаўкі, аплата працы даглядчыкаў. Вынікі ў галіне радуюць. Цяляты штодня прыбаўляюць у вазе па 600-700 грамаў.

Цяляты да шасцімесячнага ўзросту знаходзяцца на ферме. Але ўтрымліваюцца яны на свежым паветры ў кашарах. Іх рэгулярна выганяюць на некалькі гадзін у дзень на бліжэйшую да фермы пашу.

Што датычыць дойнага статка, то ён на пашы знаходзіцца кругласутачна.

Вывад маладняку на адгонныя пашы, кругласутачная пасьба кароў дае магчымасць планамерна рыхтаваць жывёлагадоўчыя памяшканні да зімова-стойлавага перыяду ўтрымання.

— У нас чатыры фермы буйной рагатай жывёлы, — расказвае старшыня калгаса Леанід Пятровіч Дзергачоў. — Склалі план іх рамонту. Згодна яго, усе памяшканні павінны быць падрыхтаваны да 15 кастрычніка.

Адказнасць за падрыхтоўку ферм да зімоўкі праўленнем ускладзена на прараба гаспадаркі Аляксандра Міхайлавіча Комара. З пастаўленай задачай спецыяліст спраўляецца. У яго падпарадкаванні дванаццаць будаўнікоў. Асноўны від работ на фермах — рамонт падлог, кармушак, варот...

Будаўнікі ўжо падрыхтавалі да зімы памяшканні чацвёртай фермы. Зараз рамонтныя работы вядуцца на трэцяй, якая размешчана ў вёсцы Завідаўка.

— Праблем хапае, — расказвае А.М.Комар. — Хацелася б зрабіць усё хутчэй, капітальна. Аднак, то цэменту няма, каб паправіць кармушкі, то піламатэрыялы адсутнічаюць. Даводзіцца кідаць адну работу і брацца за іншую. Аднак выхад з сітуацыі знаходзім. Галоўнае, што працаваць ёсць з кім. Узяць, да прыкладу, Валянціна Якаўлевіча Казлова. Ён сапраўды будаўнік. Аднолькава па-майстэрску валодае сякерай і кельмай. Думаю, што ў вызначаныя тэрміны усе памяшканні ферм будуць падрыхтаваны.

**В.ЧАВУСКІ.**

## У ЖНІЎНІ ЎЗРОВЕНЬ АПЛАТЫ ЖЫЛЛЯ ПАВЯЛІЧЫЎСЯ

У жніўні ўзровень аплаты жылля павялічыўся. У адпаведнасці з пастановай Міністэрства эканомікі, узраслі тарыфы на некаторыя віды камунальных паслуг. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў галіновым міністэрстве, у прыватнасці, за карыстанне халоднай вадой. каналізацыяй, ліфтам і газам у жніўні гэтага года трэба будзе плаціць на 11,9 працэнта больш, чым у ліпені. Паводле даных спецыялістаў Мінжылкамгаса, практычна на столькі ж павышана стаўка кватэрнай платы. Яна павялічылася да 6,03 рубля за 1 квадратны метр агульнай жылой плошчы.

## Хто атрымае адрасную сацыяльную дапамогу?

З 1 жніўня ў Дзяржынскім раёне, у горадзе Маладзечна і Першамайскім раёне Мінска пачалі дзейнічаць пілотныя праграмы па ўвядзенню новай сістэмы адраснай дапамогі малазабяспечанай катэгорыі насельніцтва.

Падобную праграму ўпершыню спрабуюць рэалізаваць у Беларусі. Таму пытанняў як па самой праграме, так і па ходу яе рэалізацыі ўзнікае вельмі шмат. Што, нарэшце, і пацвердзіла азнаямленне са спробай наладзіць яе ў Першамайскім раёне сталіцы.

Праграма яшчэ толькі пачынае дзейнічаць, і таму нейкія канкратныя яе вынікі пакуль што рабіць немагчыма. Адсутнічаюць у дадзены момант нават карыстальнікі гэтай праграмы. Тым не менш, як запэўніла загадчыца сектара сацыяльнай дапамогі Галіна Грыб, ужо цяпер пэўная частка грамадзян можа атрымліваць адрасную дапамогу. Што для гэтага патрэбна? Неабходна, каб у вас або вашай сям'і сукупны сярэднядушавы даход за 3 месяцы, якія папярэднічалі звароту за дапамогай, не перавышаў 50 працэнтаў дзеючага на дату звароту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва. Калі прасцей, то сёння сярэдні бюджэт пражытачнага мінімуму складае 29 тысяч 872 рублі. У тым выпадку, калі ваш даход не перавышае паловы гэтай сумы, г. зн. 14 тысяч 936 рублёў, вы можаце паспрабаваць атрымаць дапамогу. Далей вам трэба будзе звярнуцца ў аддзел сацдапамогі выканкама (яшчэ раз нагадаем, што сёння праграма дзейнічае толькі ў Першамайскім раёне сталіцы, Маладзечне і Дзяржынскім раёне) і прад'явіць даведкі аб даходах, копію асабовага рахунку, скласці дэкларацыю, напісаць заяву. Затым вашу прапанову разгледзіць спецыяльная камісія. У выніку станоўчага рашэння вы будзеце на працягу квартала атрымліваць дапамогу. Дарэчы, пакуль што ў Першамайскім раёне сталіцы нават не існуе спецыяльнага рахунку, сродкі з якога паступалі б на выплату дапамог. Але, калі грамадзяне, якія разлічваюць на дапамогу, будуць зарэгістраваны,

АФІЦЫЙНА

сродкі будуць ім выдзяляцца ў любым выпадку. Трэба таксама сказаць, што з надыходам новага квартала вам неабходна будзе прад'явіць чарговыя даведкі.

Існуе і яшчэ адна акалічнасць, якая ўплывае на тое, будзе вам выплачвацца дапамога ці не. Пры вызначэнні вашай плацежаздольнасці камісія будзе ўлічваць не толькі асобна ваш даход, але і тыя льготы, якімі вы карыстаецеся, г. зн. на транспарт, жыллё, святло і г. д. Як будзе вызначацца грашовая складаючая льгот, пакуль дакладна невядома: на тое ён і пілотны праект, каб усё праверыць на практыцы.

Цяпер пра суму дапамогі. Яна будзе дастаткова нязначная і атрымаць яе пажадаюць, напэўна, найбольш малазабяспечаныя грамадзяне, тыя, хто ў ёй сапраўды мае патрэбу. Цяпер памер адраснай сацыяльнай дапамогі вызначаецца розніцай паміж 50 працэнтамі бюджэту пражытачнага мінімуму і сукупным сярэднедушавым даходам сям'і або адзінокай асобы. Напрыклад, калі ваш даход складае 10 тысяч рублёў, то дапамога вам будзе выплачвацца у памеры 4 тысяч 936 рублёў.

Падобна на тое, што дзяржава вырашыла сапраўды даваць дапамогу толькі найбольш незабяспечаным. Прычым існуе нават сістэма паслявыплатнага кантролю за расходам грошай. Калі будзе выяўлена, што дапамога пайшла на набыццё, напрыклад, спіртных напояў, то вас можна будзе пазбавіць дапамогі тэрмінам на год і нават патрабаваць звароту грошай назад, у тым ліку і праз суд.

Як паведаміла Г. Грыб, пакуль што ўзнікае вельмі шмат пытанняў па адраснай сацдапамозе: колькі чалавек будзе яе атрымліваць, як будзе праходзіць выдзяленне сродкаў і г. д. Увогуле, што будзе з існуючай цяпер сістэмай сацыяльнай дапамогі са створаным, напрыклад, толькі ў красавіку Тэрытарыяльным цэнтрам сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, які займаецца не толькі размеркаваннем грашовай, гуманітарнай дапамогі, але і прадастаўляе псіхалагічную, юрыдычную дапамогу малазабяспечаным? Хаця, новая сістэма сацыяльнай дапамогі будзе створана не хутка, і таму яны будуць існаваць напэўна, разам.

Тым не менш, факт застаецца фактам: ужо з 1 студзеня 2001 года адрасная сацыяльная дапамога павінна дзейнічаць на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Безумоўна, у рэспубліцы цяпер існуе дастаткова пашыраная сістэма сацыяльных дапамог і льгот, часта яна накіроўваецца не па адрасу. Адрасная сацдапамога — толькі адна з першых спроб нейкім чынам яе ўпарадкаваць. Наколькі яна будзе выніковай, будзе зразумела ўжо даволі хутка.

**БЕЛТА.**



*Гаспадынька.* Фота В. ТАЛКАЧОВА.

# СУПЕРВАРТАЎНІК

ГУМАРЭСКА

— Таварышы, паны! Пачнём абмяркоўваць кандыдатуры на пасаду вартаўніка. Ахоўваемы аб'ект, як вы разумееце, гэта не аб'ект, а самае сапраўднае залатое дно, таму нам патрэбен першакласны супервартаўнік.

— Прапаную кандыдатуру Бугайчука. Ён малады, спрытны, моцны, любому дасць адпор. Іменна такім і павінен быць вартаўнік

— Нядрэнная прапанова, аднак тут ёсць маленькае «але». Бугайчук малады, моцны, прыгажун, а гэта для вартаўніка вялікі мінус. Па начах, замест таго, каб пільна несці службу, ён будзе бегаць па дзяўчатах! Не, Бугайчук нам зусім не падыходзіць.

— А я прапаную на пасаду вартаўніка Аркадзя Феліксавіча Гарбузова. Ён жанчын баіцца як агню, затое трапна страляе — проста снайпер. Варашылаўскі стралок!

— Э, не. Нам не патрэбен трапны стралок! Сцеражы Бог падстрэліць каго-небудзь з нас незнарок — што тады?

— У такім разе давайце возьмем Хрэндзікава. У гэтага мужыка дзве вартасці: першая — ён храмы, і не будзе па дзеўках бегаць, па-другое — ён сляпы. Нікога з нас не прыстрэліць, бо не трапіць!

— Прабачце, Хрэндзікава таксама нельга, у Хрэндзікава не язык, а рыдлёўка — праз некалькі дзён кожны сабака будзе ведаць, чым мы з вамі тут займаемся.

— Я прапаную прызначыць вартаўніком дзеда Апанаса. Гэты вартаўнік сляпы, глухі, нямы і ходзіць на мыліцах — не вартаўнік, а скарб, лепшага нам вавек не знайсці!

**Аляксандр ПЯРЛЮК.**

*Поздравляем!*

С юбилеем дорогую маму и бабушку
КОРОТКУЮ
Дину Петровну.
*Юбилеи бывают не часто,*
*Юбилей — словно в небе звезда.*
*Мы хотим пожелать только счастья,*
*Счастья долгого и навсегда.*
*Улыбнись веселей — это твой юбилей.*
*Мы целуем тебя обнимаем,*
*Много радостных дней и спокойных ночей,*
*Долгой жизни, здоровья желаем.*
**Дочь, зять и внучки.**
**г.Добруш**

## ПРАДАМ

***2-пакаёвую кватэру.***
Тэлефон: 2-10-28.

* * *

***1-пакаёвую кватэру.***
Тэлефон: 2-14-17

* * *

***3-пакаёвую кватэру*** ў цэнтры (2 падвалы, 2 зашклёныя балконы, 2 градкі).
Тэлефон: 2-11-53 пасля 19.00

* * *

***2-пакаёвую*** добраўпарадкаваную ***кватэру***
Тэлефон 2-37-21

## МЯНЯЮ

***дом на 2-пакаёвую кватэру.***
Тэлефоны: 5-38-62, 7-12-15.

# ВЫБІРАЙЦЕ САМІ

Магчыма, многія з нас не ведаюць, што прадукты, якія мы жуём з раніцы да вечара, могуць прыўзняць або сапсаваць настрой, змякчыць дэпрэсію і даць зарад энергіі на ўвесь дзень. І ўсё таму, што рэчывы, якія ў іх утрымліваюцца, уздзейнічаюць на рэцэптары галаўнога мозгу, што адказваюць за эмацыянальны стан нашага арганізма. Вось усяго некалькі прыкладаў:

| Стан | Рэчывы | Прадукты |
|---|---|---|
| Спакойны | сератанін | хлеб, бульба, кукуруза, мяса, малако |
| узбуджаны | адрэналін | рыба, яйкі |
| расслаблены | | ацэтылалін бабовыя |

РАПТАМ СПАТРЭБІЦЦА

# МЫЛА НЕ НАМОКНЕ

Умывальнік пад адкрытым небам бывае вельмі неабходным. Толькі вось дзе трымаць мыла? Першы ж дождж ператворыць яго ў кашу. Прапануем зрабіць прыгожую і простую засцярогу для яго. Для гэтага вам спатрэбіцца прамавугольная пластмасавая банка аб'ёмам 2,5 л, напрыклад з-пад аўтамабільнага масла. У шырокай сцэнцы нажніцамі выражце прамавугольную адтуліну 130 х 90 мм, адагніце «казырок» вонкі. Для падстаўкі выкарыстайце водаправодную трубу даўжынёй да двух метраў. Адзін канец закапайце ў зямлю. У накрыўцы прасвідруйце адтуліну на 1 мм меншую, чым дыяметр трубы. Накрыўку накруціце на рыльца банкі і надзеньце на трубу.




ДАМАВІЧОК

*Здароўе*

# ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

**Карысныя ўласцівасці агародніны.**

КАПУСТА. Сок свежай капусты дапамагае пры лячэнні язвеннай хваробы страўніка, асабліва з паніжанай кіслотнасцю. Акрамя таго капуста выводзіць лішкі тлушчу з арганізма, і той, хто жадае пахудзець, павінен пастаянна ўключаць яе у свой рацыён.

Ліст свежай капусты адцягвае боль, калі прывязаць яго да хворага месца.

Адвар свежай капусты дапамагае пры перхаці.

МОРКВА І БУРАКІ тармозяць рост пухлін. Сок морквы растварае камяні ў нырках і садзейнічае іх вывядзенню, зніжае кіслотнасць страўнікавага соку.

Добра ачышчае арганізм варэнне з морквы. Дробна парэзаную моркву вараць у цукровым сіропе, у канцы дабаўляюць сок лімона. Адвар з сушанага маркоўнага бацвіння аднаўляе зрок.

ТУРНЭПС растварае камяні у нырках. На працягу тыдня трэба есці салат з турнэпсу, потым некалькі дзён піць мачагоннае.

Аб уласцівасцях соку ЧОРНАЙ РЭДЗЬКІ лячыць кашаль вядома даўно. Рэдзька таксама ўмацоўвае сардэчную мышцу, дапамагае пры стэнакардыі. Пачынаюць лячэнне з чайнай лыжкі соку, затым даводзяць да 50 грамаў. Чорная рэдзька лечыць усе віды арытміі.

АДВАРАНАЯ БРУЧКА ачышчае лёгкія і ныркі.

Гарбуз (тыква), калі яго ўжываць сырым у якасці салатаў, дзейнічае як жоўцегонны сродак. Насенне гарбуза добра чысціць арганізм. З яго дапамогай выганяюць саліцёраў.

ЗЯЛЁНЫ САЛАТ дапамагае пры бяссонніцы. Зварыць два лісты і піць адвар на ноч.

КАБАЧКІ І ПАЦІСОНЫ дабаўляйце ва усе салаты, здзёршы іх на буйной тарцы. Яны добра ачышчаюць кішэчнік.

ПАМІДОРЫ без лупіны карысныя пры атэрасклерозе.

ПЯТРУШКА, СЕЛЬДЭРЭЙ, КРОП узмацняюць патэнцыю ў мужчын, змяншаюць фрыгіднасць жанчын, ачышчаюць арганізм.

Насенне кропу паляпшае формулу крыві. Адну чайную лыжку насення заварваюць адной шклянкай кіпеню.

Пры дапамозе бульбянога соку можна вылечыць язвенную хваробу страўніка. Вараная ў мундзірах бульба дапаможа ачысціць арганізм ад шлакаў.

*СМАК*

**Салат грыбны.** 500 г марынаваных або салёных грыбоў, 3 яйкі, 200 г цыбулі і 5 сталовых лыжак зялёнага гарошку. Усе кампаненты перамяшаць і запраўіць смятанай або маянэзам.

**Рыбныя катлеты.** 400 г рыбы, 3 морквы, 1 цыбуліна, 1/4 кораню сельдэрэю, 1 яйка, 3-4 сталовых лыжкі мукі, 6-7 сталовых лыжак алею, сок паловы лімону, чорны молаты перац, соль.

Філе рыбы прапусціць цераз мясарубку, пасаліць, папярчыць, спырскаць сокам лімону і паставіць у халадзільнік на 1 гадзіну. Агародніну буйна парэзаць і адварыць у сумесі з 0,5 шклянкі падсоленай вады і лыжкі алею, затым размяць відэльцам і разам з мукой і яйкам дабавіць да рыбнага фаршу. З гатовай масы сфармаваць катлеты, абкачаць іх у сухарах і падсмажыць на алеі да ўтварэння румянай скарыначкі. Падаць халоднымі з маянэзам.

## РВУ "ДОБРУШРАЙГАЗ" ІНФАРМУЕ

*У сувязі са скарачэннем паставак звадкаванага газа з Расіі з-за запазычанасці па аплаце, рамонтам нафтаперапрацоўчых заводаў у г.Рэчыцы і г.Мазыры, скарачаецца іго пастаўка спажыўцам.*

***Зберагайце газ, выкарыстоўвайце яго толькі для прыгатавання ежы.***

**Звыш устаноўленага ліміту балоны са звадкаваным газам выдзяляцца не будуць.**

**Адміністрацыя.**

## Калі час — гэта грошы, то,

заказваючы неабходныя бланкі ў РПП "Добрушскі край", вы эканоміце і тое, і другое.



*Аператыўна, якасна, нядорага!*
*Заказвайце і эканомце!*

**Кантактны тэлефон: (8-233) 2-17-88**

## НАЙМУ

***кватэру.***
*Цэнтр, раён «Антоноўка», ДФЗ, раён СХТ*
Тэлефон: 7-12-15.

## ВИДЕО-ФОТОСЪЕМКА, ТАМАДА

**Телефон: 7-16-78.**
Лицензия №27036, 1996 г.

"Добрушскі край" - масавая газета (на беларускай мове).
Рэгістрацыйны №44.
Індэкс 64176 (інд.), 63994 (вед.)

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Добрушскія райвыканкам, раённы Савет дэпутатаў, рэдакцыя газеты "Добрушскі край".

В.А. ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА
МІКОЛА ШЫШОЎ

*Газета выходзіць у аўторак, чацвер і суботу. Друк афсетны. Аб'ём 1,0 друк. аркуш.*
Тыраж 5140 Заказ 1168 .

Адрас рэдакцыі: 247050, Рэспубліка Беларусь, г.Добруш, Гомельскай вобласці, вул. Савецкая, 33.

Тэлефоны:
галоўнага рэдактара ... 2-11-44
намесніка галоўнага рэдактара .................. 2-19-62
прыёмнай ....... 2-14-02
бухгалтэрыі .... 2-26-64
рэдактараў аддзелаў ...... 2-39-91, 2-19-84.
E-mail:root@kraj.belpak.gomel.by

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыйна-паліграфічнага прадпрыемства "Добрушскі край", надрукавана на Добрушскай папяровай фабрыцы "Герой працы".
*Падпісана да друку — 8.30*

Меркаванне аўтараў публікацыі не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

СЕРВЕР Дапамогу рэдакцыі ў тэхнічным забеспячэнні выпуску выдання аказвае навукова-вытворчае прадпрыемства "Сервер".
Адрас НВП "Сервер": г.Гомель, вул.Карбышава,2, п.419.
Тэлефоны: 47-47-50, факс 47-57-57.